Год выданьня 66. № 612, Люты 2015 г.

*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС


ISSN 1054-9455

**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***

*Address:* **166-34 Gothic Drive Jamaica, NY 11432, USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

***Шаноўныя чытачы!***

*Вітаем вас на старонках чарговага лютаўскага нумару нашай з вамі газэты. Спадзяемся, што вы чакалі яго і будзеце радыя прачытаць усё, што мы падрыхтавалі для вас. Люты - апошні месяц зімы, мы ўсе чакаем пасьля сёлетніх маразоў надыходу вясны. Для беларусаў наступны сакавік - першы вясновы месяц назаўсёды зьвязаны з нашым самым галоўным сьвятам - Днём Волі, да якога рыхтуемся загадзя, а менавіта ў лютым. Таму гэты нумар мы пачынаем з публікацыі віншаваньня з надыходзячым сьвятам ад старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы. Спадзяемся, што такім чынам мы спрыяем таму, каб выклікаць ужо зараз сьвяточны настрой у нашых чытачоў.*

*З нагоды будучага сьвята падаем таксама інфармацыі і запрашэньні на сьвяткаваньне Дня Волі ў беларускіх асяродках у Амэрыцы.*

*Знаёмцеся таксама з іншымі адметнымі падзеямі, якія адбыліся ў нашым жыцьці і ў сьвеце, што маюць дачыненьне да нашых беларускіх справаў. Не заставайцеся абыякавымі да нашага заклiку аб дапамозе Украіне. Ушанавалі мы таксама памяць забітага ў Расеі Барыса Нямцова, які быў прыхільнікам беларускага апазыцыйнага руху і напісаў уласнаручна сьвятыя для нас словы "Жыве Беларусь!"*

*Зьвярніце ўвагу на інфармацыйна насычаную публікацыю пра заходнюю дапамогу Беларусі, якая складзеная па матэрыялах адмысловага дасьледаваньня тэмы журналісткаю Радыё Свабода Ганнаю Соусь.*

*Чытайце, але і пішыце ў газэту. Падавайце больш навінаў з жыцьця беларускага замежжа, напісанае застанецца ў гісторыі. Менавіта гэтая думка і прымушае нас працаваць над газэтаю, каб яна і надалей была крыніцаю інфармацыі для вас цяпер і для будучыні.*

***Рэдакцыя***

# Сьвяточнае віншаваньне

**Дарагія суродзічы-беларусы!**

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, віншую вас з нашым вялікім сьвятам – Днём Волі – угодкамі таго слаўнага 25-га сакавіка 1918 году, калі беларускі народ абвясьціў сьвету, што ён "скідае апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці" і што "ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка – незалежная, вольная дзяржава".



Дзякуючы адвазе і рашучасьці нашых продкаў, мы ўвайшлі не як расейская губэрнія ў склад Савецкага Саюзу, а – прынамсі на паперы – як асобная рэспубліка, а ў 1991-м годзе мы дамагліся Незалежнасьці, і Рэспубліка Беларусь як дзяржава заняла сваё адметнае месца на паверхні Зямлі.

Народу нашаму прышлося перажыць шмат бедаў, і мы яшчэ іх далёка не пераадолелі. Але Беларусь жыве! Беларусь ёсьць часткай сям'і незалежных народаў.

Нажаль, імпэрскі цмок, на якога шмат нашых людзей перасталі зьвяртаць увагу пад уплывам штодзённага прамываньня мазгоў маскоўскай і прамаскоўскай прапагандай, зноў разбудзіўся. Незалежнасьць Беларусі зноў апынулася пад пагрозай і ў сёньняшніх умовах мы ня здолеем яе абараніць без дапамогі цывілізаванага сьвету.

Дарагія суродзічы, любоў да свайго краю, салідарнасьць між намі і нашыя паводзіны ёсьць адзінай зброяй, якой мы валодаем, каб захаваць незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. Толькі калі цывілізаваны сьвет зразумее, што мы ёсьць стары эўрапейскі народ, які нічым ня розьніцца ад іншых эўрапейскіх народаў, і што мы таксама заслугоўваем на эўрапейскія ўмовы жыцьця ў сваёй уласнай вольнай дзяржаве, ён зьверне ўвагу на нашую нядолю.

Але дзеля гэтага трэба, каб іншыя народы бачылі, што мы заслугоўваем на іхні давер і іхнюю павагу. Вольны сьвет не паможа маскоўскім паплечнікам ці саюзьнікам. Нават калі мы ўважаем, што дапамога, якую аказаў Захад Украіне, была недастатковай, каб абараніць яе тэрытарыяльную цэласнасьць, – бяз салідарнасьці Захаду палова Украіны была б у руках маскоўскага агрэсара. Бяз гэтае салідарнасьці не дамо рады і мы.

Караткевіч казаў: "І адзін можа!" Дык заклікаю сёньня кожнага з вас, мае дарагія суродзічы, – зрабіце сваёй мэтай спрычыніцца да волі зямлі вашых продкаў і да лепшай долі вашых унукаў і праўнукаў. Каб усе мы маглі разам марыць пра тую Беларусь, пра якую марыў і беларускі народ, калі прыняў Акт 25 сакавіка 1918 году.

**Жыве Беларусь!**

***Івонка Сурвілла,***
*Старшыня Рады БНР.*
*Сакавік 2015 г.*

# Валянтэры дапамагаюць украінцам



***Валянтэры ў Беларусі, Ізраілі, Польшчы і Літве дапамагаюць украінцам***

***Пакуль палітыкі вядуць дыпляматычныя гульні, дзейнічаюць шараговыя грамадзяне. Ня толькі ўкраінцы, але і тыя, каго вайна на Данбасе не датычыцца наўпрост. У розных кутках сьвету зьявіліся валянтэрскія арганізацыі, што дасылаюць ва Украіну грошы, абсталяваньне ды мэдыкамэнты, даглядаюць параненых жаўнераў, што ляжаць у замежных шпіталях. Навошта замежнікі гэта робяць?***

Прыцэліўся, стрэліў, пабег. Гэта не палігон на Данбасе, гэта курсы вайсковых інструктараў у Літве. На грошы, сабраныя ў прыватных асобаў, арганізацыя «Blue/Yellow» наняла выкладнікаў, каб трэніраваць украінцаў бою паводле натаўскіх стандартаў, каб тыя пазней перадалі веды ў сваіх вайсковых падразьдзяленьнях. «Blue/Yellow» — гэта суполка літоўцаў, якія прынялі блізка да сэрца расейскія танкі на Данбасе. Група паўгоду як актыўна дапамагае Украіне.

Самыя розныя людзі, адмыслоўцы ў розных галінах, дапамагаюць не ўкраінскаму Генштабу, а непасрэдна ўкраінскім жаўнерам. Купляюць і перадаюць на фронт масккалаты, берцы, каскі і бронекамізэлькі, ды нават ваенную оптыку.

«Літоўцы цудоўна разумеюць, што такое Расея, і што патэнцыйна значыць гэтая сытуацыя для Літвы, для балтыйскіх краінаў», — гаворыць **Ёнас Оман** з суполкі «Blue/Yellow».

Беларусы таксама разумеюць, але дзейнічаюць больш асьцярожна. Валянтэры ў Гомлі і Менску зьбіраюць грошы, на якія потым купляюць ва Украіне мэдыкамэнты. І хоць у нас і не адбываецца мітынгаў у падтрымку Украіны, дзякуючы і беларусам таксама палявыя мэдыкі ратуюць жыцьці параненым.

«Даюць вельмі розныя сумы, ад 10 тысячаў да 5 мільёнаў рублёў адразу. І вельмі розныя людзі, пачынаючы ад дзяўчын у дэкрэтным адпачынку, сканчваючы бізнэсоўцамі на вельмі крутых аўто», — распавёў «Белсату» беларускі валянтэр **Андрэй Стрыжак**.

***Заканчэньне на 3-й бачыне***

# Дапаможам і мы Украіне!

Да пададзенай вышэй інфармацыі варта дадаць, што беларусы ў Нью-Ёрку таксама сабралі грошы на дапамогу украінскім ваярам, пра акцыю Бруклінскага аддзелу БАЗА мы паведамлялі ў мінулым нумары нашай газэты. Таксама ў Нью-Ёрку адбыўся канцэрт Сяржука Сокалава-Воюша, на якім былі сабраныя грошы на дапамогу украінцам. Аднак, на гэтым справу дапамогі не трэба лічыць скончанай. Вайна працягваецца і мы таксама павінны працягваць збор сродкаў у беларускіх асродках у Амэрыцы. Важна, не толькі іх сабраць, але і правільна выкарыстаць.

Паведамляем, што БАЗА уваходзіць у склад заснавальнікаў і сяброў **Амэрыканска-Эўрапейскага камітэту салідарнасьці**, які аказвае дапамогу таксама і Украіне. Праз БАЗА і гэтую арганізацыю амэрыканскія беларусы маюць магчымасьць наўпрост дапамагаць украінскім ваярам. Зьвяртайцеся з прапановамі і запытамі у Рэдакцыю газэты, і мы будзем дапамагаць рэалізаваць вашыя намеры дапамагчы украінцам.

# Замежная дапамога Беларусі

## Як зарабляе на эўрапейскай дапамозе беларускі чыноўнік

***Якія найбольш буйныя праекты замежнай дапамогі рэалізоўвае беларуская дзяржава? І хто атрымлівае найбольш карысьці ад гэтай дапамогі? Чаму гэтая сфэра застаецца максымальна закрытай? І як працуе мэханізм стварэньня праўладных недзяржаўных арганізацый?***

Штогод Беларусь атрымлівае ад найбуйнейшых донараў каля




З 2006 па 2012 гады асноўныя донары выдаткавалі:




Напрыканцы мінулага году ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі праходзілі слуханні па дзяржаўна-прыватным партнэрстве (ДПП) і быў падрыхтаваны праект закону на гэтую тэму. Праўдападобна, што на слуханьнях дэпутаты ня згадвалі, што гэты праект рэалізуецца ў Беларусі за грошы Эўразьвязу пры пасярэдніцтве ААН. Поўная назва праекту — «Умацаваньне нацыянальнага патэнцыялу ў галіне прымяненьня мэханізмаў дзяржаўна-прыватнага партнэрства ў Рэспубліцы Беларусь». Кошт праекту — EUR 1 080 528. Дэклараваная мэта — развіцьцё прыватнага сэктара ў Беларусі. У рамках двухгадовага праекту прадугледжаны міжнародныя канфэрэнцыі, падрыхтоўка за мяжой і ў Беларусі беларускіх кансультантаў па ДПП і стварэньне нацыянальнага цэнтру ДПП.

Дзяржаўна-прыватнае партнэрства (ДПП) — гэта шырока распаўсюджаная на Захадзе форма партнэрства бізнэсу і дзяржавы. Гэтую форму Эўразьвяз хацеў бы ўкараніць і ў Беларусі. Цэнтры дзяржаўна-прыватнага партнэрства пасьпяхова дзейнічаюць у Нямеччыне, ЗША і Сынгапуры.

На што ідуць мільёны эўра дапамогі ад Эўразьвязу?

Экс-кандыдат на прэзыдэнта Яраслаў Раманчук у сваім блогу на сайце «Беларускія навіны» задаецца пытаньнем: «З чаго б гэта раптам Палата прадстаўнікоў, якая пакорліва падтрымлівала ўсе падатковыя і рэгулятарныя інструмэнты катаваньня нацыянальнага бізнэсу, раптам загаварыла пра партнэрства зь бізнэсам?» І тут жа адказвае на яго: «Тэма ДПП стала такой жа прававой і рэгулятарнай жвачкай, як такія збляклыя клішэ ад ААН і іншых міжнародных арганізацыяў, як “устойлівае развіцьцё”, “інклюзіўны рост” або “ўсеагульны дабрабыт”. Абмяркоўваць ДПП у краіне з усёахопнай дзяржавай гэтак жа бясьпечна для саміх чыноўнікаў, як партнэрства КПСС з каапэратарамі ў Савецкім Саюзе. Ані ў кога няма ілюзіяў адносна таго, хто ў дадзеным партнэрстве Вялікі брат. Таму прадстаўнікі ўлады спакойна могуць гаварыць пра роўнасьць умоваў для дзяржаўнага і прыватнага капіталаў, пра роўныя магчымасьцях працы ў інфраструктурных сэктарах... Перад намі прыклад чарговага заканадаўчага выхлапу. Дэпутаты ПП НС паставілі галачку. Урад ударыў кулаком у грудзі, дэкляруючы любоў да нацыянальнага бізнэсу. ААН даў справаздачу пра посьпехі ў супрацоўніцтве з уладамі...»

Не мае сэнсу аналізаваць мэтазгоднасьць і эфэктыўнасьць праекту дзяржаўна-прыватнага партнэрства ў сёньняшняй Беларусі, дзе апошнім часам зроблена ўсё, каб задушыць прыватнае прадпрымальніцтва, сканцэнтруем увагу на бюджэце і выканаўцах праектаў, якія рэалізуюцца ў краіне за грошы Эўразьвязу. Паводле дзейных правілаў ЭЗ наўпрост не выдзяляе грошы профільнаму міністэрству — выканаўцу праекту. Каб быў празрысты кантроль, звычайна наймаюць трэйці бок, у Беларусі звычайна гэта ПРААН (Праграма развіцьця ААН), арганізацыя з добрай рэпутацыяй, якую крытычна згадаў Яраслаў Раманчук. На сайце ПРААН можна знайсьці інфармацыю пра большасьць дзейных праектаў замежнай дапамогі, пра іх бюджэт, імёны выканаўцаў, можна пабачыць, колькі грошай дае ЭЗ, а колькі — сама ААН.

Напрыклад, праект коштам USD$ 595 000 «Садзейнічаньне ўраду Рэспублікі Беларусь пры ўступленьні ў Сусьветную гандлёвую арганізацыю праз узмацненьне экспэртнага і інстытуцыянальнага патэнцыялу» рэалізуецца праз Міністэрства замежных спраў Беларусі. Праект коштам USD$ 1 946 000 «Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіцьцё» рэалізуе Міністэрства спорту і турызму Беларусі. Праект коштам USD$ 355 400 «Садзейнічаньне ўдасканаленьню судовай сыстэмы Рэспублікі Беларусь пры дапамозе развіцьця спэцыялізацыі судоў» рэалізуе ў Беларусі Інстытут перападрыхтоўкі і павышэньня кваліфікацыі судзьдзяў, работнікаў пракуратуры, судоў і ўстаноў юстыцыі БДУ. У Беларусі шырока не афішуецца, што інфармацыя пра праекты замежнай дапамогі знаходзіцца ў адкрытым доступе на сайце ПРААН і што прэтэндаваць на ўдзел у праекце тэарэтычна можа любы спэцыяліст. Звычайна, на практыцы ўдзельнікі праекту збольшага перадвызначаныя. Адзін з удзельнікаў праекту, які рэалізавалі ў Беларусі за грошы Эўразьвязу пры пасярэдніцтве ААН, на ўмовах ананімнасьці распавёў Свабодзе пра некаторыя асаблівасьці асваеньня замежнай дапамогі: «Заўсёды абвяшчаецца конкурс, і па ідэі кожны ахвотны можа ўзяць у ім удзел. Але звычайна загадзя вядома, хто ўзначаліць праект і хто будзе працаваць у рамках праекту. Што найбольш прыцягальнае ва ўсіх праектах — гэта адукацыйныя візыты дзеля дасягненьня пэўнай мэты. А гэта добрыя камандзіровачныя, шматлікія паездкі за мяжу. Пяць дзён сутачных роўныя месячнаму заробку чыноўніка. Чаму не паехаць у адукацыйную паездку?

Профільнае міністэрства можа ўмяшацца ў выбар супрацоўніка для праекту, узгадненьне кіраўніка праекту вядзецца пры ўдзеле міністэрства, і, канечне, калі яны ня ўхваляць чалавека з вуліцы, то ён і ня пройдзе. Загадзя можна скласьці пералік патрабаваньняў да кандыдата і пад іх узяць патрэбнага чалавека. Калі хочаш доктара навук узяць, запішы ў патрабаваньнях доктарскую ступень. Але калі хочуць узяць чыюсьці жонку, то возьмуць. Напрыклад, быў у нас адзін праект, зьвязаны з судовай сыстэмай. Адзін праваабаронца з “Эўрапейскай Беларусі” падаваў заяўку на ўдзел у гэтым праекце. Падчас гутаркі прадстаўнік Мін'юсту запытаўся ў яго, што трэба мяняць, і той сказаў пра тое, што ў нас няма разьдзяленьня ўладаў. У адказ яму сказалі, што ў нас усё дзейнічае. У выніку гэтага прэтэндэнта не ўзялі ў праект». Што да магчымага карупцыйнага складніку, то суразмоўца Свабоды адзначае наступныя нюансы: «Міністэрства-куратар заўсёды можа ўмяшацца і скарэктаваць плян закупак у рамках праекту — напрыклад, купіць не адзін прынтэр, а тры, бо па завяршэньні праекту ўсе сродкі пераходзяць да таго дзяржаўнага органа, які зьяўляецца нацыянальным выканаўцам. Яны купляюць мэблю, пляншэты і айпады, і ўсё гэта застаецца міністэрству, якое можа захацець, каб куплялі не бюджэтныя, а даражэйшыя кампутары. І часцей за ўсё потым адбываецца так, што заканчваецца праект, і ўсё завяршаецца».

Як патлумачылі Радыё Свабода ў Брусэлі ў Эўракамісіі, пры рэалізацыі беларускай дзяржавай сацыяльных і эканамічных праектаў абавязкова выстаўляецца патрабаваньне — удзел недзяржаўнай арганізацыі.

Кіраўнік Цэнтру эўрапейскай трансфармацыі Андрэй Ягораў адзначае, што, як правіла, беларускія дзяржаўныя органы супраціўляюцца ўдзелу незалежных НДА, і донары, каб рэалізаваць праект, мусяць пагаджацца на ўмовы, якія выстаўляе дзяржава, і ўключаюць туды прадзяржаўныя НДА: «У буйных праектах і праграмах вы, хутчэй за ўсё, не пабачыце незалежных НДА. Напрыклад, Рада Эўропы выдзяляла на экалягічныя праекты грошы па схеме супольнага ўдзелу дзяржавы і грамадзянскай супольнасьці. І замест вядомых беларускіх экалягічных арганізацыяў была задзейнічаная арганізацыя, якая была створаная за 2 месяцы да пачатку праекту і зарэгістраваная на базе Мінпрыроды. Ці, напрыклад, ПРААН рэалізуе праграму падтрымкі ўдзелу НДА ў кансультацы наконт нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцьця. І дапамога ПРААН дзеля падтрымкі дыялёгу з грамадзянскай супольнасьцю выдзяляецца геаграфічнаму таварыству, якое амаль не існуе і зарэгістраванае ў БДУ ў межах геаграфічнага факультэту. Астатнія НДА проста ня ведаюць, што там за дыялёг, што там адбываецца.

Цяпер рэалізоўваецца праграма, зьвязаная з дэцэнтралізацыяй мясцовай улады на 12-13 мільёнаў эўра, і там няма ніякай грамадзянскай супольнасьці. Мы шмат разоў размаўлялі з прадстаўніцтвам ЭЗ у Менску, і яны казалі пра тое, што няблага было б уключыць такія арганізацыі, як, напрыклад, фонд Сапегі, якія шмат гадоў працуюць з тэматыкай мясцовага самакіраваньня. Але ніколі нам не ішлі насустрач, мы ніколі ня мелі магчымасьці адкрыта размаўляць пра ўдзел сапраўдных арганізацыяў для рэалізацыі гэтых праектаў».

Паводле Андрэя Ягорава, дапамога, якая ідзе беларускай дзяржаве, у асноўным выкарыстоўваецца на сацыяльна-эканамічныя і інфраструктурныя праекты (кшталту пракласьці новую дарогу), не зьвязаныя з праблемамі развіцьця мясцовых супольнасьцяў:

«Часам робіцца шмат чаго карыснага. Але гэтая дапамога ніяк не садзейнічае таму, каб тут разьвівалася дэмакратыя. У 2011 годзе беларуская дзяржава атрымала грошы на падтрымку дэцэнтралізацыі і развіцьця мясцовага самакіраваньня ў Беларусі. Прадугледжваўся шэраг адукацыйных сэмінараў для цэнтральных і мясцовых уладаў. Але гэта татальнае глупства, бо ў Беларусі няма ніякай мясцовай улады і незалежнага самакіраваньня. Беларуская дзяржава атрымлівае грошы ў лепшым выпадку на шэраг бессэнсоўных мерапрыемстваў».

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька прагназуе, што бліжэйшым часам мы станем сьведкамі зьяўленьня вялікай колькасьці НДА і праваабаронцаў, створаных беларускай дзяржавай: «НДА будуць падсаджвацца на

эўрапейскія праграмы. Канфармізм вельмі шырока распаўсюджаны, і да таго ж сёньняшні трэнд — трэба працаваць зь беларускай уладай. Улады Беларусі ставяць задачу — вярнуць адносіны з Захадам у нішу, якая існавала перад апошняй прэзыдэнцкай кампаніяй. Мы бачым, што эўрапейскія грошы павялічваюцца, але іх кантралюе беларускі чыноўнік».

Думку Анатоля Лябедзькі працягвае Яраслаў Раманчук: «Ёсьць камітэты жанчын пры ўладзе, ці арганізацыі БРСМ, якія могуць атрымліваць эўрапейскія грошы як НДА. Яны — частка ідэалягічнага апарату ўлады, але яны атрымліваюць грошы ЭЗ, таму што адбываецца нейкая імітацыя дыялёгу. Улады кантралююць дапамогу на дзяржаўныя праекты і дапамогу, якая павінна трапляць у грамадзкі сэктар. І зьяўляецца псэўдаграмадзкі сэктар — камітэты абароны міру, як за савецкім часам. Калі па фармальных крытэрыях структура падыходзіць, то яна і праце. Калі донары пачынаюць адназначна казаць, што для атрыманьня дапамогі яны павінны зарэгістраваць арганізацыю, то як яе зарэгістраваць апанэнтам улады, нават у сфэры экалёгіі?»

Брусэльскі «Офіс за дэмакратычную Беларусь» разьмясьціў на сваіх старонках рэкамэндацыі «Як зарэгістраваць праект міжнароднай тэхнічнай дапамогі ў Беларусі». Калі ўважліва вывучыць працэдуру рэгістрацыі, становіцца зразумелым, наколькі складаны і працяглы гэты працэс, у якім кожны крок патрабуе ўхвалы шэрагу дзяржаўных міністэрстваў і ведамстваў. Падаць праект у Мінэканоміі, атрымаць заключэньне МЗС аб адпаведнасьці праекту нацыянальным інтарэсам, атрымаць ухвалу Камісіі па пытаньнях міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва пры Савеце міністраў і шмат чаго іншага. І становіцца відавочным, што незалежнаму ад дзяржавы гульцу гэта зрабіць малярэальна.

Сярод дзяржаўных структураў — атрымальнікаў замежнай дапамогі найбольш адкрытым выявілася Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя. Эўразьвяз і Мінпрыроды рэалізуюць экалягічных праектаў на 35 мільёнаў даляраў, яшчэ блізу 20 мільёнаў — на стадыі ўзгадненьня. Цяпер на тэрыторыі Беларусі пры пасярэдніцтве ААН рэалізуецца пяць сумесных праектаў з сукупным бюджэтам каля 13 мільёнаў даляраў. Дадзены старт яшчэ пяці праграмам на суму 7 мільёнаў даляраў, а ў пэрспэктыве заплянавана выдзеліць Беларусі дадаткова 15 мільёнаў даляраў на экалягічныя патрэбы. Галоўныя напрамкі супрацоўніцтва — вада, паветра, клімат, адкіды, біяразнастайнасьць. У прыватнасьці, цяпер на тэрыторыі Беларусі вядзецца праца дзеля захаваньня біяразнастайнасьці і сыстэмы ахоўных водна-балотных угодзьдзяў, прадухіленьня забруджваньня навакольнага асяродзьдзя нафтапрадуктамі, кіраваньня воднымі рэсурсамі і г. д. За эўрапейскія грошы рэалізуецца праект, накіраваны на ачышчэньне ракі Нёман, заплянаваныя яшчэ два праекты ў басэйне Дняпра. Акрамя таго, бакі працуюць на ўзгадненьне беларускага заканадаўства ў галіне прыродакарыстаньня з эўрапейскай прававой базай. На апошняй стадыі распрацоўкі — праект развіцьця ветравой энэргетыкі Беларусі. Праграма развіцьця ААН у Беларусі сумесна зь Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя рыхтуюць да рэалізацыі тры новыя праекты. Адзін зь іх зьвязаны з развіцьцём ветраэнэргетыкі ў Беларусі, каб паспрыяць краіне ў развіцьці аднаўляльных крыніцаў энэргіі. Гэтая тэма адпавядае прыярытэтам канкрэтнага донара — Глябальнага экалягічнага фонду (ГЭФ). Праектная заяўка ўхваленая, завяршаецца распрацоўка поўнамаштабнага праекту. Асноўным партнэрам выступае дэпартамэнт па энэргаэфэктыўнасьці Дзяржаўнага камітэту па стандартызацыі, выканаўчым агенцтвам — Мінпрыроды. Праект плянуецца рэалізаваць на працягу 5 гадоў пры фінансаваньні ПРААН і ГЭФ. Яго бюджэт — крыху больш за 3 мільёны даляраў.

Яшчэ адзін праект, які рыхтуецца, — «Зялёныя гарады Беларусі». Мэта — падтрымка «зялёнага горадабудаўніцтва» ў малых і сярэдніх гарадах Беларусі. Ён акцэнтуе ўвагу на пытаньнях экалёгіі пры планаваньні інфраструктуры гарадоў. У рэалізацыю праекту мяркуецца ўкласьці каля 13 мільёнаў даляраў, зь іх 3 мільёны 100 тысяч дасьць Праграма развіцьця ААН.




Яшчэ адзін атрымальнік замежнай дапамогі ЭЗ — Міністэрства адукацыі Беларусі. У міністэрстве Свабодзе паведамілі, што для навучаньня ў арганізацыях замежных дзяржаваў кандыдаты накіроўваюцца найперш з улікам прыярытэтных кірункаў разьвіцьця эканомікі і сацыяльнай сфэры. Пералік спэцыяльнасьцяў навучальных установаў, рэкамэндаваных для навучаньня ў 2014-2015 гадах, ухвалены міністрам адукацыі. Якія прыярытэты вызначыла на Захадзе для беларускіх студэнтаў адукацыйнае ведамства? Краіны-суседзі і Эстонія запрашаюць на навучаньне па наступных спэцыяльнасьцях:«Біялёгія» — Мэдычны ўнівэрсытэт, Гданьск, Польшча. «Аўтаматызацыя і кіраваньне тэхналягічнымі працэсамі (лёгкая прамысловасьць)» — Тэхнічны ўнівэрсытэт, Беласток, Польшча. «Бухгальтарскі ўлік, статыстыка» — Віленскі ўнівэрсытэт, Вільня, Літва. «Лесаўпарадкаваньне і лясная таксацыя» — Унівэрсытэт прыкладных навук па лясной гаспадарцы і інжынэрыі навакольнага асяродзьдзя, Коўна, Літва. «Эканоміка і арганізацыя вытворчасьці» — Тэхнічны ўнівэрсытэт, Талін, Эстонія. Іншыя краіны ЭЗ (кідаецца ў вочы «нямецкі ўхіл») запрашаюць беларускіх студэнтаў, каб атрымаць наступныя спэцыяльнасьці.— «Інавацыі ў навучаньні замежным мовам» — Унівэрсытэт «Рэгент», Лёндан, Вялікая Брытанія. «Радыётэхніка, сыстэмы і прылады радыёнавігацыі, радыёлякацыі і тэлебачаньня» — Імпэрскі каледж, Лёндан, Вялікая Брытанія. «Сыстэмы, сеткі і прылады тэлекамунікацыяў» — Унівэрсытэт «City University London», Лёндан, Вялікая Брытанія. «Тэхналёгія электрахімічных працэсаў і абарона ад каразіі» — Каралеўскі тэхналягічны інстытут, Стакгольм, Швэцыя.— «Нанатэхналёгіі і нанаматэрыялы (у электроніцы)» — Унівэрсытэт Кальяры, Кальяры, Італія. «Аўтаматызацыя і кіраваньне ў тэхнічных сыстэмах»: Тэхнічны ўнівэрсытэт, Дрэздэн, Нямеччына.— «Машынабудаваньне і машыназнаўства»: Брэмэнскі ўнівэрсытэт, Брэмэн, Нямеччына. «Цьвёрдацельная электроніка, радыёэлектронныя кампанэнты, мікра- і нанаэлектроніка, прыборы на квантавых эфэктах» — Унівэрсытэт Пфорцхайма, Пфорцхайм, Нямеччына. «Радыёэлектронныя кампанэнты, мікра- і нанаэлектроніка» — Інстытут фатонных тэхналёгіяў, Ена, Нямеччына. «Германскія мовы»— Білефэльдзкі ўнівэрсытэт, Білефэльд, Нямеччына. «Эканоміка і кіраваньне народнай гаспадаркай» — Унівэрсытэт прыкладных навук «Фонціс», Эйндговэн, Нідэрлянды. Якія выдаткі нясе бок, які выпраўляе на навучаньне, а таксама той, які прымае, у Міністэрстве адукацыі не ўдакладняюць — маўляў, гэта ўнутраныя справы ведамства. Нягледзячы на спэкуляцыі афіцыйных прапагандыстаў — маўляў, галоўныя «грантасосы» ў Беларусі — палітычныя партыі і «трэці сэктар» — насамрэч 90% замежнай дапамогі адрасна выдзяляецца пад праграмы дзяржаўных ведамстваў.

Раз-пораз здараецца «працёк» інфармацыі наконт таго, што эўрапейскія грошы ідуць ня толькі на дэклараваныя праекты, але і на тое, каб палепшыць узровень камфорту міністэрскіх работнікаў — прыкладам, на новую мэблю ці нават на службовы аўтамабіль. У Беларусі, фактычна ведамствы зь ліку заходніх грантаатрымальнікаў негалосна кінутыя на гасразьлік: маўляў, выбівайце грошы і самастойна латайце свае дзіркі. Таму немалая частка сродкаў таксама банальна ідзе на тое, каб плаціць заробкі супрацоўнікам. Штогод ад структураў Эўразьвязу дзяржаўныя міністэрствы і ведамствы атрымліваюць дзясяткі мільёнаў эўра ў якасьці «тэхнічнай дапамогі» на ўдасканаленьне сваёй дзейнасьці. Але прасачыць, наколькі мэтава расходуюцца атрыманыя сродкі, амаль нерэальна — мэханізмы іх асваеньня застаюцца маленькім сакрэтам дзяржаўных «грантасосаў».

***Паводле Радыё Свабода***
*06.01.2015*

# Валянтэры дапамагаюць украінцам

***Заканчэньне з 1-й бачыны***

Да кампаніі далучыўся таксама Ізраіль. Усё пачалося з групы ў Фэйсбуку, дзе ізраільцяне арганізоўвалі пад украінскай і расейскай амбасадай мітынгі ў падтрымку Майдану. Пасьля расстрэлу Майдану «Ізраільскія сябры Украіны» арганізавалі прыём і лекаваньне параненых з Кіева — у Рэхавот, Тэль Авіў, Іерусалім. Паступова замест майданаўцаў у шпіталі сталі прыяжджаць цяжкапараненыя байцы АТО. А з Ізраілю ва Ўкраіну рэгулярна лятае каштоўны груз.

З Майдану пачалася гісторыя двух варшаўскіх арганізацыяў. «Украінскі Сьвет» — згуртаваньне дыяспары ўкраінцаў, і польскі фонд «Адкрыты дыялёг» разам дапамагаюць уцекачам у Польшчу. Юрыдычныя кансультацыі, псыхалягічная дапамога, пошук працы, збор вопраткі для сем'яў, якія з пустымі рукамі ўцякалі з Данбасу. «Рэчы для дзіцяці, якія людзі прыносяць. Часта ўкраінцы, часта палякі, часта беларусы, каторыя жывуць тут», — распавядае **Натальля Панчанка** з «Украінскага сьвету».

А для байцоў АТО тут купляюць лекі, бронекамізэлькі, кеўларавыя каскі ды нават аўтамабілі-ўседарожнікі, з якіх у Кіеве потым зробяць паўнавартасныя ган-тракі. Напрыклад, грошы на вось гэтыя 7 касак сабралі варшаўскія беларусы. Усё сабранае перадаюць наўпрост на фронт, у рукі байцоў, каб абмінуць прасякнутыя карупцыяй і крадзяжом тылавыя склады.

Украінская дзяржава аказалася абсалютна не гатовая да вайны. У выніку першымі адпор агрэсару далі добраахвотніцкія батальёны, якіх зьбіралі на фронт не прапаршчыкі-тылавікі, а валянтэры, на грошы простых украінцаў, пры дапамозе грамадзянаў Беларусі, Польшчы, Літвы, Нямеччыны ды нават Ізраілю.

Яшчэ адна прычына, чаму многія замежнікі дапамагаюць валянтэрам дапамагаць украінскаму войску — яны кажуць: лепш мы сёньня купім каскі ўкраінцам, чым заўтра будзем вымушаныя апранаць іх самі, калі да нас прыйдуць «зялёныя чалавечкі» з Расеі.

***Паводле Белсат***
*28.02.2015*

# У Маскве забілі Барыса Нямцова

Барыс Нямцоў быў адным зь лідэраў расейскай апазыцыі, былым віцэ-прэм'ерам Расеі, а таксама актыўным крытыкам рэжыму Пуціна. Яго забойства асудзілі шэраг сусьветных лідэраў, аналітыкі зьвязваюць яго сьмерць з актыўнай палітычнай дзейнасьцю.



# Нямцоў і «Жыве Беларусь!»

*Сяргей Навумчык*

Жыве Беларусь!

У Маскве забіты Барыс Нямцоў. У хвіліны, калі я пішу гэтыя радкі, ён ляжыць на асфальце каля Крамля, у самым цэнтры сталіцы краіны, якая ўздымаецца з кален. Ці, як пераконваюць з Крамля, ужо паднялася. Цывілізаваны сьвет з жахам глядзіць на тое, што паўстала. Пяць тысяч чалавек загінулі ва Украіне, недзе ў маскоўскім СІЗА памірае лётчыца Саўчанка, і вось забіты адзін з галоўных і даўніх апанэнтаў цяперашняга расейскага рэжыму.

У канцы 90-ых ён быў першым віцэ-прэм'ерам Расеі і нейкі час лічыўся наступнікам Барыса Ельцына. Нямцоў быў дэмакратам (расейскім, канешне, дэмакратам, з характэрнымі стэрэатыпамі), але ён безумоўна адрынаў аўтарытарныя метады.

Ва ўсялякім разе я пераканаваны, што калі б менавіта ён зьмяніў у Крамлі Ельцына — сёньня Беларусь на ўсходзе мела б іншую суседку. Магчыма, ня лепшую. Але — іншую.

А што да стэрэатыпаў... Мне даводзілася сустракацца зь Нямцовым, і аднойчы, пасьля даволі працяглай гутаркі, ён зрабіў надпіс мне на кнізе — «Жыве Беларусь!». У надпісе не было ніводнай памылкі.

*Паводле Радыё Свабода*
*28.02.2015*

# 70 гадоў беларускай прысутнасьці ў ААН

27 красавіка 1945 году Беларусь была прынята ў склад заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Сёлетні юбілей варта адзначыць, бо гэта сапраўды сталася адной са значных падзеяў гісторыі краіны. І калі напачатку прысутнасьць БССР у складзе ААН зьяўлялася больш фармальнай, то з набыцьцём незалежнасьці гэты факт набыў вышэйшую якасьць.

Нажаль, пра сапраўды незалежную палітыку сучаснай Беларусі ў ААН таксама не даводзіцца гаварыць. Прадстаўніцтва Беларусі ў ААН па ранейшаму арыентуецца ў сваёй дзейнасьці на палітыку Расеі.




Сёлета Прадстаўніцтва ўзначальвае Андрэй Дапкюнас, радавод якога цягнецца да Купалы. Ягоная бабуля - пляменьніца клясыка, а маці - Жанна Дапкюнас была добра вядомая беларуская інтэлігенцыі, як дырэктарка Музея Янкі Купалы ў Менску.

Сярод дзесяткі адказных асобаў Прадстаўніцтва на сайце ў гэтым сьпісе можна знайсьці на чацьвёртай пазіцыі знаёмае прозьвішча. Яно належыць Віталю Макею. Гэта старэйшы сын цяперашняга міністра замежных справаў Беларусі Уладзіміра Макея. Раней Віталь Макей працаваў у Вене, а цяпер — у Нью-Ёрку. Ён дарадца па эканамічных і экалагічных пытаньнях. Цікава, што Віталь абраў сабе дзіўную транскрыпцыю прозвішча, адрозную ад бацькі — Маскау.

# Прэзыдэнт ЗША асудзіў забойства Нямцова

Прэзыдэнт ЗША Барак Абама асудзіў «брутальнае» забойства расейскага апазыцыйнага палітыка Барыса Нямцова. Пра гэта на афіцыйнай старонцы ў твітэры паведаміла Нацыянальная рада бясьпекі ЗША.

Афіцыйны Вашынгтон заклікаў расейскія ўлады правесьці «неадкладнае, бесстароньняе і празрыстае расьследаваньне» і «забясьпечыць, каб адказныя паўсталі перад правасудзьдзем».

# Заява Freedom House:

«Сьмерць Нямцова — жудасны шок. Асаблівыя падазрэньні выклікае тое, што ён забіты за два дні да буйной апазыцыйнай акцыі ў Маскве. Мы смуткуем у сувязі са стратай гэтага экстраардынарнага абаронцы дэмакратыі і свабоды ў Расеі і заклікаем расейскі ўрад да адкрытага і поўнага расьследаваньня злачынства. Міжнародная супольнасьць будзе за гэтым пільна сачыць».

# Дэвід Бэкхем і Вікторыя Азаранка зрабілі сумеснае фота

Вікторыя Азаранка пасля перамогі над Вінус Уільямс сфатаграфавалася з Дэвідам Бэкхэмам.

Знакаміты ангельскі экс-футбаліст прысутнічаў на гульні 1/2 фіналу турніру ў горадзе Доха, калі беларуска абыграла амерыканку і выйшла ў фінал.



# Беларус ва ўплывовай праваабарончай арганізацыі

Ад 1 лютага 2015 намесьнік старшыні Вашынгтонскага гуртка БАЗА Вячаслаў Бортнік прызначаны старшынём каардынацыйнай групы па Еўразіі ў Amnesty International USA. Вячаслаў працаваў у якасьці спецыяліста гэтай арганізацыі па Беларусі, Малдове і Украіне з красавіка 2012 года. Сп. Бортнік мае доўгую гісторыю супрацоўніцтва з Міжнароднай Амністыяй. 20 гадоў таму ён далучыўся да Гомельскай ініцыятыўнай групы, а ў 2002-2006 гг. узначальваў Беларускую нацыянальную структуру арганізацыі.



# У чылійскіх Кардыльерах ушанавалі памяць Ігната Дамейкі

«З падзякай ад беларусаў да грамадзян Чылі, якія дапамаглі Ігнату Дамейку знайсьці ў Чылі другую радзіму», — цяпер гэтыя словы сустрэнуць кожнага на гары Сера-Кімаль. Беларускі турыст Павал Гарбуноў 24 студзеня усталяваў мемарыяльную дошку на найвышэйшым пункце Кардыльеры-Дамейка, што знаходзіцца ў чылійскіх Андах, побач з пустыняй Атакама.



# Сустрэча з Зянонам Пазьняком



Управа Бруклінскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Ёрку 1 сакавіка запрасіла сваіх сяброў і ўсіх жадаючых на сустрэчу са старшынём Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ Зянонам Пазьняком. Сп. Пазьняк нядаўна вярнуўся з Варшавы, дзе быў працяглы час і меў што распавесьці прысутным пра сучасную сітуацыю на нашай Бацькаўшчыне. Сустрэча адбывалася якраз у той дзень , калі стала вядома пра забойства ў Маскве вядомага расейскага апазыцыйнага палітыка Барыса Нямцова, таму напачатку прысутныя ўшанавалі хвілінаю маўчаньня ягоную памяць. Зразумела, што гэтая падзея таксама сталася тэмаю гаворкі, бо, як вядома, Барыс Нямцоў заўсёды падтрымліваў і беларускую апазыцыю рэжыму.

Шмат увагі сп. Пазьняк надзяліў у сваім выступе падзеям вайны ва Украіне і сумным перспектывам для Беларусі ў гэтым кантэксце, бо наша Бацькаўшчына таксама можа быць уцягнутая ў гэтую вайну. Таксама гаварылася м пра тое, якую пагрозу нясе сьвету імпэрская палітыка і агрэсіўная дзеяньні Расеі, пра антычалавечую сутнасьць пуцінскага рэжыму.

На сустрэчы прысутныя маглі набыць і кнігі Зянона Пазьняка. Сп. Пазьняк таксама прапанаваў увазе слухачоў новую кнігу "Айчына вечная" (Ojczyzna wieczna), якая выйшла ў мінулым годзе ў Варшаве. Гэта пераклады на польскую мову ягоных выбраных вершаў з кнігі "Дарога", якія зрабіла польская паэтка Ірэна Грынцэвіч (Irena Hryncewicz).

***Ганна Сурмач***

# "Доўгая дарога да свабоды"

Пад такой назваю ў мінулым 2014 годзе выйшла ў сьвет новая кніга, якая мае дачыненьне да гісторыі беларускай эміграцыі. Кнігу надрукавала выдавецтва "Тэхналёгія" у Менску. Гэта ўспаміны пра пакутніцкі эміграцыйны лёс беларуса Мікалая Махнача. Кнігу даслаў нам у Рэдакцыю сам аўтар з суправаджальным лістом:

"Гэта невялікая кніжка, якую вам дасылаю, была напісана мною для прачытаньня і ацэны. Да напісаньня яе мяне падгаварыла мая школьная сяброўка, з якой я вучыўся ў Валожыне па-польску ў 1937-38 гадах. У 1941 годзе савецкая ўлада выслала мяне на "прынудзілаўку" у Карэлію. Па нападзе немцаў на саветы я, як польскі грамадзянін, уступіў у польскую армію генерала Андэрса і ў шэрагах гэтай арміі выехаў з " передовой страны міра" на Блізкі Усход, а потым у Італію, затым у Вялікабрытанію і нарэшце ў Амэрыку.

Пісаў я гэты жыцьцяпіс па-польску, а мая сяброўка Геня Чаплінская перакладала на беларускую мову, паказала гэта спачатку беларусу Міхасю Чарняўскаму і так дайшло да друку гэтых маіх успамінаў..."

Варта тут падзякаваць сьветлай памяці Міхасю Чарняўскаму, які дамогся, каб гэты цікавы аповяд пабачыў сьвет і каб мы мелі магчымасьць адкрыць для сябе яшчэ адну цікавую старонку нашай гісторыі. Пра беларусаў, якія ваявалі у Войску генерала Андэрса сёе-тое ўжо напісана, але пакуль зусім мала і кожны такі новы штрых дадае інфармацыю для маладшых пакаленьняў, асабліва з былога Савецкага Саюзу і нават сёньняшняй Беларусі, якія ведалі пра Другую сусьветную вайну толькі тое, што пісала савецкая прапаганда.






Сп. Махнач жыве зараз у штаце Масачусэтс, у невялікім гарадку Уэбстар. На пададзеным тут фота мы бачым, як бадзёра і прыгожа ён выглядае ў свае больш як 90 гадоў, а таксама і якім ён быў у маладосьці, калі адбываліся апісаныя ім падзеі.

Ад Рэдакцыі вельмі дзякуем сп. Махначу за тое, што ўзяўся занатаваць свае ўспаміны, за тое, што захаваў сваю беларускасьць на доўгім жыцьцёвым шляху і тым самым можа быць добрым прыкладам для маладых беларусаў.

Вельмі раім прачытаць кнігу нашай моладзі, атрымаць яе ў часовае карыстаньне можна ў бібліятэцы Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтік Авэню 401, дзе захоўваецца падараваны нам асобнік.

***Ганна Сурмач***

# Архіў беларускай эміграцыі — збірайма разам!

Шаноўнае спадарства!

Беларуская прысутнасьць у замежжы налічвае стагоддзі. Актыўнае ж стварэньне і дзейнасьць структур беларускай дыяспары ідзе ад пачатку ХХ ст. Арганізацыі, цэрквы, творчыя калектывы, суполкі дзейнічаюць сёньня ў больш як 20 краінах сьвету. На жаль, у Беларусі найчасцей толькі спецыялісты ведаюць пра дасягненьні і значнасьць дзейнасьці беларусаў замежжа для ўсёй беларускай нацыі. Толькі некаторыя імёны і падзеі беларускага замежжа апошнімі гадамі вяртаюцца ў супольную беларускую скарбонку. Для гісторыі, сучаснасьці і будучыні нашай нацыі надзвычай важна, каб сведчаньні гэтай дзейнасьці зьбіраліся, захоўваліся, дасьледаваліся, вывучаліся і папулярызаваліся ў Беларусі.

З гэтай мэтай у чэрвені 2014 г. пры падтрымцы "ЗБС "Бацькаўшчына" пры Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва паўстала навукова-творчая ініцыятыва ***"Цэнтр камплектаваньня і вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа"***.

Цэнтр мае на мэце наладзіць сістэматычны збор дакумэнтаў, друкаў, любых артэфактаў, што ствараліся і ствараюцца беларусамі па-за межамі Беларусі. Будзе наладжаная праца па своечасовай апрацоўцы і сістэматызацыі гэтых архіваў, дзякуючы чаму дасьледчыкі атрымаюць больш поўную і адэкватную інфармацыю пра дзейнасьць беларускіх арганізацый за мяжой. Аднак паспяховасьць гэтай місіі найпрост залежыць ад зацікаўленасьці і саміх арганізацый беларускага замежжа.

> ***Да ведама: "Цэнтр камплектаваньня і вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа"*** *— архіўная кансультацыйная і дасьледчая структура, прызначаная для садзейнічаньня выяўленьню, захаваньню, апісаньню, вывучэньню і папулярызацыі дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа. Больш інфармацыі пра яе можна знайсьці на сайце:*
> ***http://bdamlm.by/centr-kamplektavannya-i-vyvuchennya-dakumentalnay-spadchyny-belaruskaga-zamezhzha***

**У сувязі з гэтым зьвяртаемся да ўсіх суполак замежжа з просьбаю-заклікам дасылаць у Цэнтр камплектаваньня і вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа ўсё, што тычыцца публічнай дзейнасьці:** дакумэнты, абвесткі, улёткі, праграмы мерапрыемстваў, друкаваныя выданьні, арганізацыйныя дакумэнты і іншае — усё, што дапаможа будучым дасьледчыкам вывучаць вашую дзейнасьць і такім чынам захоўваць і фіксаваць гісторыю беларускага замежжа.

Надзвычай важна, каб у Цэнтр перадаваліся не толькі архіўныя матэрыялы, але і тыя, што тычацца сучаснай дзейнасьці.

Заклікаем прыватных асобаў — творчых і грамадскіх дзеячаў — перадаваць у Цэнтр свае ўласныя архівы. Яны каштоўныя для дасьледчыкаў!

Свае архіўныя зборы ўжо перадалі вядомыя дзеячы замежжа Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Аляксей Каўка і іншыя. У 2014 г. у архіў была перададзеная вялікая калекцыя дакумэнтаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк).

Дасылаць ці перадаваць дакументы і матэрыялы просім на адрас:

**Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва**

*Вул. Кірыла і Мефодзія, 4. 220030, Мінск, Беларусь*

***Тэл.:*** *+375 (17) 327-4781*
***E-mail:*** *bdamlim@tut.by; nhardzijenka@gmail.com*

Супольнымі намаганьнямі мы зможам захаваць памяць пра беларускую прысутнасьць у сьвеце і зрабіць беларускае замежжа больш бачнымі і сучаснікам, і нашчадкам А імёны людзей, што перадалі архівы і навіны дзейнасьці Цэнтра, мы будзем публікаваць на сайце Згуртаваньня "Бацькаўшчына" і ў бюлетэні "Беларусы ў свеце".

***Наталля Гардзіенка,***
*Старшыня Цэнтру, сябра Рады і Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# Сьмерць пчаляра

*ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ*

**(Гэты апавяд даслаў нам у Рэдакцыю сам аўтар)**

Стаяў пачатак ліпеня. Бурштынава-жоўтымі духмянымі кветкамі ўкрыліся ліпы. Цалюткі дзень над імі гулі пчолы. У той ліпень дрэвы шчодра аддавалі мёд. Такая мёдадайнасьць бывае раз у сем гадоў.Усё вакол дыхала жыцьцёваю сілаю. Акурат пад вокнамі вялізнага дома, які стаяў у лесе, непадалёк ад крынічнай рачулкі, высыпалі лісічкі. Далей, па маладым хвойніку, было поўна казлякоў — хоць касі касою. А ў бярэзьніку ўжо вытыркнулі смуглява-рудыя капелюшы крамяная баравікі. І было іх як ніколі багата.

І ў гэты час магутнага росквіту прыроды даводзіцца паміраць. Якая жахлівая несправядлівасьць! Ды паміраць праз нейкую недарэчнасць: разбалеўся зуб. Доктара блізка няма, а ехаць у райцэнтр Вілейку за паўсотню вёрст з гакам не было калі. Пчолы пачалі раіцца. Хіба кінеш іх у гэты час? А зуб усё мацней балеў. Мусіў ехаць у Вілейку. “Дайце рады! Рвіце, што хочаце рабіце. Немагчыма болей трываць”, — узмаліўся ён. “М-да, каб на пару дзён раней, можна было б рваць. А так трэба рабіць разрэз, пачысціць”.

Разрэз пухліны зрабілі, адправілі дамоў, каб рана загаілася. Але рана не загойвалася, наадварот — яна гарэла агнём і балела ўсё мацней. Павезлі зноў у Вілейку. Там зрабілі аналізы і бездапаможна развялі рукамі: заражэнне крыві, сепсіс. Медыцына бяссільная. І ён прыехаў дамоў паміраць.

Крыўдна і горка, бо табе ўсяго 53. Толькі падняў трохі дзяцей. Набрала сілу школка — гадавальнік пладовых дрэў. Саджанцы ўвосень і па вясне давалі добрую капейчыну. Пачаў даваць прыбытак і пчальнік. Разбудаваўся, узгадаваў ліпавыя прысады. Акультурыў зямлю. Бедны, нішчымны супясчанік падабрэў, пашчадрэў на ўраджай. Такіх ураджаяў у навакольлі не бачылі. Дзівіліся людзі, між сабою гаманілі:

— Тодар Янчэўскі зрабіў перавал зямлі. Таму ўсё і расьце.

Зрабіць перавал зямлі параіў Тодару бацька. Малаадукаваны селянін, але галаваст, масьцеравіты, цьвярозы розумам, меў шмат дзяцей. Памалу ўсіх прывучаў да працы. Дзеці, быццам мурашкі, цягнулі ўсё ў хату. У малога Тодара ён заўважыў ахвоту да навукі і вырашыў: “Касьцьмі лягу, а вывучу сына”. Працаваў бацька з цёмнага да цёмнага. І калі сын скончыў мясцовую школу, павёз яго ў Баруны, пад Ашмяны, каб вывучыўся на настаўніка. У мястэчку Баруны паводле загада цара адкрылі семінарыю, якая рыхтавала выкладчыкаў расейскай мовы. Падбіралі мясцовых, здольных да навукі хлопцаў.

Вучыўся Тодар лёгка, шмат чытаў. І ўсё часцей задумваўся, што яму давядзецца вучыць беларускіх дзетак чужой мове, а трэба ж перш-наперш вучыць сваёй, роднай. Сказаў неяк пра свае думкі бацьку. А той кажа:

— Сынок мой дарагі, плёткаю абуха не пераб’еш. Мой бацька, а твой дзед, Тамаш, быў касінерам Каліноўскага. Паклаў галаву за вольную Беларусь. Давялося мне расьці сіратою. Ад людзей вучыўся ўмельству. І цясьлярыць, і сьлясарыць. І печ умею скласьці. І пчол даглядаю. А ты грызі навуку. Займееш дакумент, дазвол на школьную працу, зажывеш, як пан, — настаўляў сына стары Тодар.

І вось семінарыя скончана, атрымаў дакумент, у якім было напісана: “Янчевский Федор Федорович окончил полный курс...” Пачаў Янчэўскі працаваць у школе, называў сябе Тодарам, а вучні, іхнія бацькі з пашанаю клікалі яго Тодарам Тодаравічам. Неўзабаве ажаніўся. Узяў прыгожую мясцовую дзяўчыну, бедную, але здаровую, працавітую. І пайшлі дзеці — адно за адным. І ўсё дзяўчынкі — ажно пяцёра. “Настаўнік Тодар — дамскі майстар”, — пасьмейваліся суседзі. Нарэшце нарадзіўся сын, а за ім другі, а потым і трэці.

А па сьвеце ўжо крочыла дваццатае стагоддзе. У Расеі распачынаў свае рэформы мудры Сталыпін. Дачуўся настаўнік Янчэўскі, што можна купіць надзел зямлі. Калі не стае грошай, льга ўзяць крэдыт у гіпатэчным банку. Стары Тодар параіў:

— Купляй, сынку, зямлю. Бяры сьмела пазыку. Абжывешся — аддамо.

Набыў Тодар Янчэўскі сорак гектараў зямлі: з лесам, сенажацямі — поймаю ракі Канатопкі ды зьдзірванелаю пусткаю. Адбудаваў вялікі прыгожы дом. Пад вакном пасадзіў тапалю. Зямля радзіла слаба. Давалі капейчыну пчолы, дзятва зьбірала ягады, грыбы, старэйшыя насілі ў Радашкавічы прадаваць. Тодар налаўчыўся прышчэпліваць дзічкі, заклаў сабе ладны садок. Бацька параіў завесьці школку, каб мець багата саджанцаў і прадаваць. А каб яны добра гадаваліся, трэба акультурыць зямлю. Трэба зрабіць перавал.

Напрыканцы лета, калі скончыўся сенакос, адраіліся пчолы, выкачалі мёд, наняў Тодар трох мужыкоў з суседняй вёскі, паказаў што і як рабіць. Мужчыны капалі вузкую траншэйку на тры штыкі — прыблізна на аршын глыбінёю, дзеці засыпалі яе лісцем, шыгаллем, травою. Сам Тодар з жонкаю насілі гной, попел, пілавіньне, і ўсё закладалі ў траншэю. Мужчыны рылі побач новую траншэю, а ранейшую засыпалі. І такім чынам — далей і далей.

Па вясне Тодар заклаў на новым пляцы школку пладовых дрэў. Расьлі саджанцы, як на дражджах. Потым гаспадар прышчэпліваў іх, гады праз два-тры прадаваў. Неўзабаве па ўсім наваколлі зелянелі сады з Тодаравых прышчэпак.

Паявіліся грошы, выпадала і вольная часіна. Тодар з маленства любіў музыку і сьпевы. Гэтая любоў перадалася ад бацькоў: маці хораша сьпявала, бацька іграў на жалейцы — чаратовая дудачка, на канцы якой берасьцяны рог. Жыла ў Тодаравым сэрцы запаветная мара: набыць сапраўдную скрыпку. Каб купіць гэткі інструмент, давялося ехаць у Вільню. А потым у доме пад тапаляй паявілася гітара, затым — балалайка і мандаліна. Кожны з дзяцей на нечым іграў. Калі звонкім вясновым вечарам сям’я Янчэўскіх садзілася на ганку музыцыраваць, то ў лесе заціхалі птушкі, нават лісьце таполі не шалясьцела — усё навокал слухала музыку.

Часьцяком на хутар наязджалі госьці. Ды не абыякія: з недалёкай Максімаўкі — Сымон Рак-Міхайлоўскі, аўтар музыкі “Зоркі Венеры”, дырэктар беларускай гімназіі, з Радашкавіч — Браніслаў Тарашкевіч з жонкай-прыгажуняй Верай Андрэеўнай. Іншым разам прывозілі і малога Радаслава, які любіў дурэць з дзяўчаткамі Тодара. Зрэдку прыязджаў са сваёй Мігаўкі і Аляксандр Уласаў, выдавец “Нашай Нівы”. Госьці пілі медавуху, ласаваліся маладзенькімі крамянымі баравічкамі, каталіся на лодцы, гралі, сьпявалі. І “Зорку Венеру” Багдановіча, і “Дазволь цябе любіць” на словы Зьмітрака Бядулі. Гучаў і купалаўскі гімн беларусу-працаўніку “Аратаму”:

*Хай злыдні над намі*
*скрыгочуць зубамі —*
*Любі сваю ніву,*
*свой край*
*І, колькі ёсць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, бараную,*
*засявай!..*

Настаўнік Тодар выкладаў расейскую мову і літаратуру, глыбока ведаў і любіў свой прадмет. Але па-расейску гаварыў толькі на школьных уроках. У генах жыла любасьць да роднай мовы, да ўсяго роднага. Ён багата ведаў напамяць вершаў Багдановіча і Купалы, Зьмітрака Бядулі і Алеся Гаруна.

Госьці не баяліся гаварыць пра самае запаветнае: вакол — лес, за сталом — усе свае. Калі на дварэ цямнела, распальвалі вогнішча, вадзілі карагоды. Звонкія галасы, залівісты сьмех каціліся над возерам, над крынічнай Канатопкай. А потым расьпісвалі пульку — хутаранін Тодар быў заўзятым прэферансістам. Сядзелі, здаралася, да раніцы. Пілі чай, бурштынава-п’янкую медавуху.

* * *

У бакоўку, дзе ляжаў Тодар, часта заходзіла жонка, з жахам пазірала на барвова-фіялетавую шчаку. Клала цёплую далонь на лоб:



— Можа, чаго з’ясі? Ці вып’еш?

Тодар адмоўна хітаў галавою, заплюшчваў вочы — не мог бачыць сумны, журботны жончын твар. Дзятва хадзіла на дыбачках, перамаўлялася напаўголаса, каб не трывожыць хворага бацьку. Памёр Тодар на сьвітанні, калі першыя промні асьвяцілі верхнія балонкі вакна. Ён шумна ўздыхнуў, пацягнуўся спакутаваным целам, выпрастаўся і заціх.

Дзень быў сьпякотны, калі яго хавалі. Расчынілі вакно. Наважыліся вынесьці труну, як раптам з шумам і звонам у пакой заляцеў рой. Пчолы нікога не джалілі, абляпілі твар і грудзі нябожчыка. Яны поўзалі па халодных, назаўсёды сашчэпленых працавітых руках пчаляра. Пчолы сьцішана зьвінелі, шаргацелі крылцамі. Пра што яны гаварылі? Людзі не маглі тое разгадаць. Адно зразумелі ўсе: пчолы разьвітваюцца са сваім гаспадаром.

Сьвятар абкурыў іх кадзілам. Старэйшы Тодараў сын, першы памочнік у пчалярскіх справах, распаліў курэль, таксама “асьвяцыў” пчол дымам. Вынеслі труну, усталявалі на падводу. Пчолы па-ранейшаму сядзелі. Выехалі з лесу, павярнулі да могілак. Тады толькі пчолы ўзьняліся, пакружылі над возам з дамавінаю і павярнулі на свой пчальнік.

За падводаю ішло багата людзей. Яны прыехалі з усяго наваколья: з Ілі ды Радашкавіч, Маладзечна ды Вілейкі.

* * *

Гэтую гісторыю мне расказаў Сяргей Яноўскі, былы партызан, былы вязень ГУЛАГА. Мы стаялі пад таўшчэразнай таполяю. Угары яна была расшчэплена маланкаю, некаторыя тоўстыя галіны засохлі, некаторыя, зламаныя, зьвісалі ўніз. Але старое магутнае дрэва жыло. На бакавых ствалах шапацела лісьце. Колішняга вялізнага дома не было. Дзядзька Сяргей паказаў, дзе была студня, дзе — скляпы, хлявы, канюшня. Магутныя валуны, укладзеныя ў падмурак пабудоў, ляжалі непарушна.

У доме пад таполяю нарадзілася Сяргеева маці. А яна нарадзіла чатырох сыноў. Старэйшы працаваў лясьнічым пад Маладэчна. На жаль, пайшоў ужо з жыцьця. Малодшы, Барыс, быў галоўным інжынерам шпалернай фабрыкі ў Менску, трэці сын, Леў, галоўным энергетыкам Менскага гадзіннікавага завода.

— Я ўжо разьмяняў дзевяты дзесятак. Бацька пражыў дзевяноста сем. Карані нашы моцныя, — дзядзька

Сяргей памаўчаў, пагладзіў шурпаты, патрэсканы ствол таполі. Потым загаварыў зноў:

— Раней думалася: Беларусь — як наш хутар. Ужо не адродзіцца. А цяпер іншыя думкі. Паглядзіце, што ў сьвеце робіцца?! Як усе народы, усе краіны, нават малыя, змагаюцца за сваю самабытнасьць, за сваю адметнасьць. Вунь, бачыце, мурашнік? Давайце падыдзем бліжэй.

Мы наблізіліся да разбуранага мурашніка. На роўным пляцы раструшчанае шыгальле, усялякі друз.

— Быў магутны мурашнік. Зімою дзікі раскапалі. Але ў сярэдзіне зноў расьце стажок. Вунь, сноўдаюць мурашы. Яны адбудуюць яго, — дзядзька зірнуў на гадзіннік. — Мы гадзіну можам удзяліць ім?

— Можам.

— Тады давайце абгародзім.

Высеклі тры рагаціны, укапалі ў зямлю, на іх — тры жэрдкі — і абгародка гатова. Калі скончылі справу, дзядзька Сяргей задумліва сказаў:

— Наша Беларусь нагадвае мурашнік. Цягам усёй гісторыі наш край руйнавалі, палілі, тапталі. То крыжакі, то шведы, то палякі, то расейцы. А беларусы, як тыя мурашы, закасвалі рукавы. Сякеры, пілы ў рукі — і за працу... Ну што, разьвітаемся з тапаляй?

Падышлі да старога дрэва. Раптам я пачуў нейкі прыглушаны звон. Абышоў круга таполю, задраў галаву: бачу — пад зламаным сукам цямнеецца дупло, вакол яго віюцца пчолы. Паказаў Сяргею.

— Значыць, яны жывуць тут. Гэта маладняк высыпаў на аблёт. Дупло глядзіць акурат на усход. А пчолы — дзеці сонца. У мяне ў Крыжоўцы — лецішча. Сам збудаваў невялікі дамок. Завёў пчол. Добра прыжыліся. І мядку давалі. Ва ўсіх ёсць садкі, маліны. У лесе — чабарок, верас. Але стары я ўжо. Недабачу, недачуваю. Карацей, не дагледзеў пчолак. Загінулі. Прыедзь калі да мяне. Выбераш сабе каранік.

Я слухаў дзядзьку Сяргея, унука пчаляра Тодара, і міжволі думаў пра невынішчальную сілу жыцьця. А яшчэ падумалася: ад маёй хаты да таполі напрасткі вярсты дзве. Летась у мяне ўцёк рой. Добра памятаю, што паляцеў ён убок Канатопкі. Можа, гэта мае пчолы пасяліліся тут? Хай жывуць. Месца прыдатнае: вербы над рэчкаю, лазняк, чаромха. У лесе — маліны, верас. І вада блізка.

* * *

Дні праз два я прытарабаніў з Крыжоўкі даволі вялікі вулей — польскі "пашоўжны", на васемнаццаць рамак. Падрамантаваў, вымыў палыновым адварам, устанавіў на месца. На ўсякі выпадак паставіў чатыры рамкі сушы і дзве рамкі вашчыны. Некалькі дзён не падыходзіў да яго.

Неяк па абедзе аглядаў пчальнік, падышоў і да Сяргеевага караніка. Што такое? Лётаюць пчолы — у лётку і з лёткі. Можа, зладзейкі шастаюць? А потым бачу: апусьцілася пчолка на прылётную дошку з поўнымі кошычкамі жоўтага пылку, і нібы на жоўтых колах, пакацілася ў домік. А за ёй другая, трэцяя. І ўсё з ношкаю. Значыць, прыляцеў аднекуль рой. Можа, тыя пчолы, што віліся над старою таполяю? Яны вярнуліся дамоў.

*2005*

# Каляндар памятных датаў на сакавік-красавік 2015

## САКАВІК

**1 сакавіка - 55** гадоў таму, у 1960 годзе, памёр **Віктар Шутовіч**, каталіцкі сьвятар, культурны дзеяч

**4 сакавіка - 125** гадоў таму, у 1890 годзе, нарадзіўся **Язэп Германовіч (Вінцук Адважны)**, каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі

**4 сакавіка - 10** гадоў таму, у 2005 годзе, памёр **Карлас Шэрман**, пісьменьнік, перакладчык, грамадзкі дзеяч

**5 сакавіка - 75** гадоў таму , у 1940 годзе, памёр **Аляксандр Сержпухоўскі**, этнограф і фалькларыст

**5 сакавіка - 15** гадоў таму, у 2000 годзе, у Менску загінуў **Мікола Ермаловіч**, гісторык

**8 сакавіка - Міжнародны жаночы дзень**

**8 сакавіка - 105** гадоў таму, у 1910 годзе, нарадзіўся **Пётра Конюх**, сьпявак, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бэльгіі, ЗША, Канадзе

**10 сакавіка - 10** гадоў таму, у 2005 годзе, памёр **Апанас Цыхун**, краязнавец, педагог, пісьменьнік

**14 сакавіка - 20** гадоў таму, у 1995 годзе, у Нью-Ёрку памёр **Уладзімір Сядура**, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**19 сакавіка - 120** гадоў таму, у 1895 годзе, нарадзіўся **Тамаш Грыб**, палітычны і культурны дзеяч

**21 сакавіка - 175** гадоў таму, у 1840 годзе, нарадзіўся **Францішак Багушэвіч**, паэт, празаік, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1863 году

**23 сакавіка - 160** гадоў таму, у 1865 годзе, нардзіўся **Стары Улас (Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі)**, паэт

**23 сакавіка - 120** гадоў таму, у 1895 годзе, нарадзіўся **Васіль Сташэўскі**, пісьменьнік грамадзкі дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстаньня

**25 сакавіка - Дзень Волі**

**25 сакавіка - 110** гадоў таму, у 1905 годзе , нарадзіўся **Алесь Вечар**, біяхімік, паэт

**25 сакавіка - 65** гадоў таму, у 1950 годзе, адбыўся ў Сыднэі **Першы зьезд Беларускага АБ'яднаньня ў Аўстраліі**

**27 сакавіка - Міжнародны дзень тэатра**

**28 сакавіка - 20** гадоў таму, у 1995 годзе, памёр **Чэслаў Найдзюк**, грамадзкі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША

## КРАСАВІК

**1 красавіка - 75** гадоў таму, у 1940 годзе, у саратаўскай турме памёр **Язэп Лёсік**, грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнавец, пісьменьнік, педагог

**3 красавіка - 35** гадоў таму, у 1980 годзе, памёр **Леанід Галяк**, юрыст, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**5 красавіка - 75** гадоў таму, у 1940 годзе, памёр **Мікола Шчакаціхін**, мастацтвазнавец, педагог

**7 красавіка - Сусьветны дзень здароўя**

**10 красавіка - 115** гадоў таму, у 1900 годзе, нарадзіўся **Гаўрыла Гарэцкі**, геоляг, географ, эканаміст, дзеяч нацыянальна-культурнага руху

**10 красавіка - 110** гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзіўся **Сьцяпан Баркоўскі**, літаратуразнавец, этнограф, удзельнік Слуцкага паўстаньня

**12 красавіка - 125** гадоў таму, у 1890 годзе, нарадзіўся **Янка Нёманскі**, эканаміст, пісьменьнік

**12 красавіка - 20** гадоў таму, у 1995 годзе, адбылося **зьбіцьцё апазыцыйных дэпутатаў** у беларускім парлямэнце

**14 красавіка - 135** гадоў таму, у 1880 годзе, нарадзіўся **Язэп Дыла**, грамадзкі дзеяч, пісьменьнік

**14 красавіка - 130** гадоў таму, у 1885 годзе, нарадзіўся **Сымон Рак-Міхайлоўскі**, грамадзка-палітычны дзеяч, сябра РАды БНР

**14 красавіка - 95** гадоў таму, у 1920 годзе, нарадзіўся **Аляксей Карпюк**, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч

**15 красавіка - 115** гадоў таму, 1900 годзе, нарадзіўся **Уладзімір Тамашчык, Архіепіскап Васіль** Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы

**16 красавіка - 75** гадоў таму, у 1940 годзе,памёр **Адам Багдановіч**, этнограф, гісторык культуры, удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацька паэта Максіма Багдановіча

**18 красавіка - Міжнародны дзень аховы помнікаў і гістарычных мясьцін**

**20 красавіка - 105** гадоў таму, у 1910 годзе, памёр **Сяргей Палуян**, публіцыст, празаік, літаратуразнавец, крытык

**22 красавіка - 10** гадоў таму, у Канадзе памёр **Барыс Рагуля**, палітычны і вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бэльгіі і Канадзе

**24 красавіка - 20** гадоў таму, у 1995 годзе, памёр **Міхась Зуй**, грамадзка-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі

**26 красавіка - Дзень памяці ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы**

**27 красавіка - 70** гадоў таму, у 1945 годзе, **Беларусь прынята ў склад заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў**

**28 красавіка - 115** гадоў таму, у 1900 годзе, памёр **Францішак Багушэвіч**, паэт, празаік, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1863 году

**28 красавіка - 70** гадоў таму, у 1945 годзе, загінуў пад час штурму Гдыні **Сяргей Крывец**, паэт

**29 красавіка - 25** гадоў таму, у 1990 годзе, у Ляймэне памёр **Юры Попка**, грамадзкі дзеяч, выдавец, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне

# Шаноўныя сябры!

***Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня***

**запрашае на ўрачыстую імпрэзу, прысьвечаную 97-м угодкам абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

***Мерапрыемства адбудзецца 22 сакавіка (нядзеля) у грамадзкай залі пры Саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага – 401 Atlantic Ave, Brooklyn NY.***

**У праґраме ўрачыстая Багаслужба ў царкве, афіцыйная частка з удзелам ганаровых гасьцей, мастацкая праґрама, а таксама пачастункі з беларускіх страваў.**

***Пачатак Багаслужбы а 10-й раніцы. Пачатак сьвяточнай імпрэзы а 1-й гадзіне дня.***

**Кошт квітка: 25 даляраў *(дзецям бясплатна).***

**Прыходзьце з роднымі, сябрамі і знаёмымі!**

**Сьвяткуйма Дзень Волі разам!**

***Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА***

**На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| Кацярына Вініцкая (ЗША) | $ 50 |
| Марыя Данілюк (ЗША) | $ 50 |
| Ян Шыбут (ЗША) | $ 50 |
| Жорж Навумчык (ЗША) | $ 50 |
| Анатоль Грошаў (ЗША) | $ 20 |

***Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам!***

## Падзяка!

Парафіяльная рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку выказвае шчырую падзяку сп. Лявону Юрэвічу, які перадаў у бібліятэку Парафіі збор кнігаў з уласнай бібліятэкі, які налічвае каля шасьці з паловай сотняў асобнікаў, а таксама 30 аўдыя-дыскаў, 8 абразоў і 6 малых скульптурных твораў. Усё гэта зьяўляецца каштоўным набыткам для нашай бібліятэкі.

# Кожны 19-ты беларус — на ўліку ў анколягаў

Колькасьць хворых на рак увесь час узрастае — зараз на ўліку ў анколягаў стаіць паўмільёна беларусаў. У 2014 годзе выяўлена 43210 новых выпадкаў анкалёгіі, а сёлета чакаецца 44210 выпадкаў. Такія лічбы прывёў 28 студзеня дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру анкалёгіі і мэдыцынскай радыялёгіі імя Аляксандрава Алег Суконка.

Пры гэтым за апошнія дзесяць гадоў на 12% зьнізілася сьмяротнасьць ад анкалягічных хваробаў. Прафэсар Алег Суконка адзначае, што ў Беларусі разьвіваюцца дасьледаваньні, якія дазваляюць шукаць індывідуальны падыход да лячэньня злаякасных новаўтварэньняў. Ужо ў бліжэйшыя 10-15 гадоў кожнаму анкалягічнаму пацыенту будуць падбіраць такое лячэньне, якое будзе складацца ў адпаведнасьці з яго малекулярна-генэтычнымі характарыстыкамі.

***Паводле Радыё Свабода***
*28.01.2015*



**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ "ПАГОНЯ"
І БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ
ЗАПРАШАЮЦЬ УСІХ БЕЛАРУСАЎ**
**на Ўрачыстую акадэмію, Банкет і Канцэрт, прысьвечаныя**

**97-М УГОДКАМ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

***Імпрэза адбудзецца ў НЯДЗЕЛЮ, 29 САКАВІКА 2015 г., а 12:30 ПАПАЎДНІ***
**ў Garden State Ballroom гатэлю Hyatt Regency па адрасе:**
*2 Albany Street, New Brunswick, New Jersey 08901*

**Перад імпрэзай а 10:00 раніцы адбудзецца Сьвятое Набажэнства Ў Царкве Сьв. Маці Божае Жыровіцкае, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, па адрасе:** *9 River Road, Highland Park, New Jersey 08904.*

***Квіткі па замове: $45. Квіткі пры дзьвярах: $55.***
*Просім замовіць квіткі загадзя, да 20 Сакавіка 2015 г.,*

Yes, I will attend **The 97th ANNIVERSARY COMMEMORATION of THE PROCLAMATION OF BELARUSAN INDEPENDENCE.**
Please, Reserve the Following Tickets:

**Name** ______________________

**Tel. No.** (____) ______________________

_______ **Ticket(s)** @ $45/person = $ _______

*Please, make checks payable to* ***Belarusan American Association*** *and send to:*
**Mr. I Grishkevich
262 White Birch Road
Edison, New Jersey 08837**

Чэкі выпісваць на **Belarusan American Association**, і адсылаць на адрас:
**Ivan Gryshkevich
262 White Birch Rd.
Edison, NJ 08837**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**
Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**

Адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432, USA**
Паштовы адрас:
**P.O. Box 456
New York, NY 10025 USA**
Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**
Кампутарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***
*Грашовыя чэкі выпісываць на імя:* ***BIELARUS Newspaper*** *і дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*
***Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***


***Printed in USA***